Амэрыкі; што Японія прасіла Злучаные Амэрыканскіе Штаты зрабіць заяву, што Амэрыка адрэкаецца ад уселякай палітыкі ў Кітаі, каторая закранула-бы інтэрэсы Японіі. Цяпер праз Штокгольм даносяць с Пецярбурга, што на жаданьне Амэрыкі японцы адцягнулі сваё войско з-над Амура, куды яны праз два месяцы — значыць, ад часу абастрэньня ўнутрэнаго крызіса ў Расеі — слалі ваенные транспорты цераз Владывасток.

Само сабой разумеецца, што і новы палітычны крок Расеі, настроіўшый Амэрыку проці Японіі, мы здалеем зусім аценіць толькі ў будучыне: вельмі можэ стацца і тое, што Амэрыка з Японіей пагодзяцца коштам Расеі. Але пакуль-што крок гэты суліць сур'ёзные здарэньня на Далёкім Усходзі, і весткі, каторые адтуль прыходзяць, пацьверджаюць наш пагляд на гэту справу.

*М. М.*

## Беларуская справа і студэнцкі рух.

Беларускі рух да нацыянальнаго адраджэньня, каторы пачаў шырока развівацца толькі ад часу першай вялікай рэволюціі ў Расеі 1905 году, за дзесяць гадоў працы пры незвычайна цяжкіх варунках здалеў пранікнуць ва ўсе сфэры народнаго жыцьця. І за апошніе перад вайной гады мы можэм адзначыць нарадзіны спэцыяльнаго беларускаго руху між студэнцкай моладзьдзю.

Жыцьцё студэнцкай маладзёжы ў Расеі заўсёды ішло пад знакам агульна-студэнцкіх і агульна-палітычных ідэалоў. Вышэйшые школы вельмі горача адклікаліся на ўсе праявы грамадзкаго жыцьця Расеі і давалі вялікае чысло чынных байцоў за справу волі. Дык найчасьцей бывало, што агульным настраеньнем і наша беларуская моладзь захоплівалася без астатку, губляючы зусім нацыянальную сьвядомасць, губляючы пачуцьцё нацыональных патрэб—сваіх асабістых і ўсяго народу. Але ўжо ў канцы 80-х і пачатках 90-х гадоў мінуўшаго сталецьця ў агульна-студэнцкім руху пачынае выдзеляцца і рух беларускі—хаця ешчэ без выразнай ідэёлогіі. Першы зачатак беларускай студэнцкай організаціі быў у Маскве, але вялікшаго сьледу па сабе не пакінуў, апрыч выданай членамі беларускаго гуртка кніжкі—перэкладу з Гаршына (з расейскаго) пад загалоўкам „Сыгнал".

Больш шчасьлівай была работа, каторую пачалі беларускіе студэнты ў пачатку гэтаго сталецьця ў Пецярбурзі: яна ня толькі не спынілася, але трывае і развіваецца ўсё болей і болей шырока. Пачатак яе выявіўся ў закладзінах «Кружка беларускай народнай асьветы», выпусьціўшаго ў 1902 гаду адозву да краёвай інтэлігенціі с прызывам несьці народу прасьвету ў яго роднай мові. Само сабой разумеецца, што тагочасная работа была патайная і з гэтай прычыны не магла шырэй развівацца; але яна датрывала да 1905 году, і пасьля рэволюціі бачым яе ўжо ў новай постаці. Студэнцкая маладзёж ладзіць тут свае вечарынкі с канцэртным аддзелам і тэатральнымі прэдстаўленьнямі, гуртуецца каля выдавецкаго таварыства. Энэргічнай працай гродзенчука І. Хлебцэвіча і некалькіх яго землякоў у 1913 гаду студэнты Пецярбурскаго унівэрсытэту закладаюць даволі сільную організацію, каторая ясна ставіць ідэю беларускую на самы першы плян, стараецца папраўдзі пазнаць свой край і народ. Унівэрсытэт — гэтае гняздо і крыніца ўсіх лепшых цумак, лепшых ідэй і лепшых людзей—і на гэты раз апынуўся наперадзі.

За унівэрсытэтам пайшлі сельска-гаспадарскіе курсы. Там стараньнем мінчука Ар. Смоліча ў тым жэ 1913 гаду заложэн студэнцкі хаўрус. Сперша ён стаяў ня лішне крэпка, але ўжо у 1914 гаду значна акрэп: туды прыплыло шмат новых сіл, с каторых усе, скончыўшы навукі, павінны былі паводлуг сваей спэцыяльнасьці працаваць між беларускім народам.

У Варшаве ешчэ раней злучыліся студэнты-беларусы і пачалі болей-менней шырока працаваць на нацыональным грунці.

У 1914 гаду залажыўся студэнцкі беларускі гурток у Пулавах (Нова-Александрыі) у сельска-гаспадарскім інстытуце.

Апрыч гэтых організацій чыста беларускаго характэру у апошніе перад вайной гады шмат было ў Пецярбурзі, Дорпаце і іншых вучэльнях розных землякцтв, хаўрусоў, гуртоў і т. п.—так або інакш беларускіх. Тут—землякцтво бабруйскае, там—мінскае, магілёўскае, вітэбскае, гродзенскае. Гэтые гурткі, хоць чыста беларускай ідэолёгіі яшче ня мелі, хоць вялі свае кніжкі і запісы ў урадовай мове, ўсё-ж складаліся ў большай сваей часьці з беларусоў, часта вельмі ідэйных і адданых свайму народу і краю.

Перад самай вайной між студэнтамі - беларусамі зрадзілася думка, каб усе гэтые гурткі злучыць якім-будзь спосабам, каб працаваць усім разам. Дзеля гэтай мэты ў Пецярбурзі ў 1914 гаду залажыўся беларускі студэнцкі журнальчык «Раніца», першы нумэр каторага выйшоў у чэрвені.

На вялікі жаль, наляцеўшая ваенная навальніца адарвала ад іх мірнай працы цэлую массу маладых беларускіх сіл, каторые апынуліся у радах чыннай арміі. І мы зусім ня ведаем, у якім палажэньні знаходзіцца цяпер беларускі студэнцкі рух. Але можэм быць пераконаны, што с прыходам мірнаго часу рух гэты закіпіць з новай сілай, што беларуская моладзь, пабачыўшы сваімі вачыма сілу народных масс, з новай энэргіей прыступіць да прыпыненай ходам прыпадкоў работы.

*І. Мелешка.*

## У Вільні і ваколіцах.

### † М. Вэнслаўскі.

У сераду, 22 жніўня, памер у Вільні Міхал Вэнслаўскі, быўшый галава места нашаго, член і маршалак польскаго кола Літвы і Русі ў II гасударственай думе, маршалак чысьленых мейсцовых інтэрнацыональных і польскіх організацій.

Паляк, падчыняўшыйся ў палітычных выступленьнях дырэктывам свайго нацыоналістычна настроенаго грамадзянства, ён, аднак, здалеў дайсьці агульнай пашаны грамадзянства іншых нацыональнасьцей: у вельмі заблутаных і ненормальных нацыональных адносінах у сталіцы нашаго краю сьв. п. М. Вэнслаўскі выяўляў заўсёды незвычайны такт, каторы разам з рэпутаціей чэлавека морально чыстаго і сумленнаго і вызываў агульную сымпатыю. Гэтым тлумачыцца выбар яго за маршалка ў інтэрнацыональных грамадзкіх установах (саюз артыстоў і інш.), а ў тым ліку за супэрарбітра ў грамадзянскім угодлівым судзе між кватэрантамі і дамаўласьнікамі, дзе ён выявіў поўную безстароннасць і сумленнасць у адносінах да спорыўшых старон і шчыры спогад беднаце ў яе цяжкім палажэньні.

Сьмерць М. Вэнслаўскаго зрабіла сільнае ўражэньне на ўсіх віленцах, каторые, бяз рожніцы нацыональнасьці і веры, сабраліся на яго пахароны. Яна адаб'ецца эхам і-далёка за лініей фронту — ў Расеі, дзе імя сьв. п. Вэнслаўскаго было добра вядома як с часу бытнасьці яго дэпутатам, так і са з'ездоў прэдстаўнікоў мест, на каторых ён выступаў ад імі нашай Вільні. У яго асобе зыйшоў у магілу апошні прэдстаўнік местоваго самаупраўленьня на старых, аджыўшых свой век асновах, с каторымі магла адчасьці мірыць нас толькі яго асоба.

---

× **Забава для дзяцей.** У нядзелю, 2 верасьня, у беларускай ахронцы „Наша Хата" ў Чорным Боры (10 вёрст ад Вільні) ладзіцца забава для дзяцей. Паабедзі—пры заходзі сонца — дзеці адыграюць спэцыяльна напісаную для іх п. Ф. Олехновічэм п'есу, за дэкорацію для каторай будзе служыць праўдзівы лес.

Мы шчыра вітаем працу пэрсонэлю „Нашай Хаты" у гэткім кірунку.

× **«Гуляньне ўздоўж Вілейкі».** У № 233 з 26 жніўня «Wiln. Ztg.» друкуе пад гэткім загалоўкам стацьцю, ў якой, між іншым, чытаем:

Там, гзе Вілейка ўліваецца ў Вілью, яна працекала не заўсёды. Толькі Гедымін, тварэц Літоўскай дзержавы, пабудаваўшый на Замковай гарэ свой замак, загадаў выкапаць яе цяперашняе русло. Дзеля гэтай работы знамeніты вялікі князь загадаў прызваць зваёваных беларусоў, і апошніе захавалі аб гэтым прызыве гэткую благую памяць, што і сягоньня патомкі іх, жадаючы каму нешта благое, кажуць: «Ідзі у Вільню—перэнасі горы!»

Мы дзякуем «Wiln. Ztg.» за «гісторычнае адкрыцьце», аб каторым мы, беларусы, дагэтуль ня ведалі. Гэтак сама невядома беларусам і сказаная «беларуская» прыказка...

× **Падарожа журналістоў.** У падарожы па землях Обэр Ост 25 жніўня ў Вільню прыехалі 10 нямецкіх журналістоў.

× **Новые страўні.** Як мы даведаліся, у найбліжэйшым часі, пакуль ня будзе даведзена да канца рэгістрація сталаўнікоў, новых стравень адкрываць ня будуць. Толькі тады, як выясьніцца, чы адкрытые ўжо страўні могуць здаволіваць патрэбы насяленьня, будзе развязана справа новых стравень.

× **Збірайце насеньне акаціі,** с катораго можна дабываць алей!

× **За фальшаваньне малака** млечарня Зерноўскай аштрафована на 50 руб., а селянін Антон Горох, катораго ўжо тройчы каралі за гэта, аштрафован цяпер на 125 руб.

---

# Духоўные песьні.

(Гл. «Гоман» № 66—68).

### Пра сьвятога Ягор'я.

Ой, каліс то ды нявернічкі былі,
Ды ня верылі Госпаду Богу,
Ды верылі паганаму цмоку,
А што з'едаў у дзень па чэлавеку
Ой, як прышлося, ой, самому цару,—
Хоць сам цар ідзі, хоць дачку шлі.
А сам цар не пашоў, ён дачку паслаў.
Паганаму цмоку на з'ядзеньне.
Яна ішла, ўсё плакала,
Зямные паклоны адбівала,
Госпада-Бога упрашала.
Выслухаў Госпад Бог
Яе малітвы справядлівые,
Сасылае сьвятога Ягор'я:
— „Едзь, Ягоры, з неба на зямлю,
Бяры каня найсільнейшаго,
Бяры і кап'ё найвастрэйшае!"
Ой, як паехаў сьвяты Ягоры,
Выплывае паганы цмок
С сіняго мора ды на бел-камень.
З ноздар яго сіні дым ідзець,
А з ляпы ў яго огонь шыбае.
Ягор гэта як завідзеў, улякнуўся:
Улякнуўся, назад вярнуўся:
„Ой, Госпадзі, і я баюся!"
— „Сьвяты Ягоры, едзь, ня бойся,—
Бяры каня найсільнейшаго,
Бяры кап'ё найвастрэйшае:
Во конь капытам, во ты кап'ём!"
Як паехаў сьвяты Ягоры
Да к сіняму, сіняму мору
І к беламу к таму камяню,—
Выплывае паганы цмок.
Як схваціўся да сівы конь!
Во конь капытам б'е,
А Ягоры ўсё вострым кап'ём,—
І убілі пагаго смока!
Запрагалі дванадцаць пар валоў
Пад таго паганаго цмока,—
А валы яго не скранулі.
Запрог тады сьвяты Ягоры
Свайго каня зверхсільнаго,
Павёз яго па белу сьвету,
Каб верылі бюдзі Госпаду Богу,
Ды ня верылі паганаму цмоку.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 22—23 | + 16° | + 14,3° |
| 23—24 | + 20,5° | + 12,4° |
| 24—25 | + 24° | + 11° |
| 25—26 | + 24° | + 13° |

# З усяго Краю.

**1000 м. награды.**

Глаўнае упраўленьне пазычковых касс («Darlehenskassen») у Бэрліне суліць награду да 1000 м. таму, хто выкрые ці пакажэ паліціі на майстроў фальшывых двохмарковак, каторые ізноў вельмі шырацца ў межах Обэр Ост.

---

ГРОДНЯ. У тую суботу віленская жыдоўская драматычная дружына іграла тут апошні раз.

ГРОДНЯ. Усе вырабленые палеткі ў межах местоваго павету Гродні павінны мець табліцы з надпісам імі валадзельца або арэндара і размероў у моргах і сажнях.

ГРОДНЯ. За сто кілёгр. доўгай высушэнай крапівы, не карацей 50 цэнт., тутэйшая «Handels— u. Rohstoff Abteilung» плаціць 10 м.

ГРОДНЯ. Вываз з Гродні пладоў і ўселякай гародніны забаронен.

ГРОДНЯ. Тутэйшая сушыльня грыбоў перэйшла ў рукі местоваго ураду. Ў ей надалей будуць сушыць гародніны.

ГРОДНЯ. У той аўторак у 150 сажнях ніжэй нёманскаго маста купаючыся ўтанулі Зофія Шварц, 22 гадоў, яе сестра Элька, 19 гадоў, і Сэня Кураш, 18 гадоў.

ГРОДНЯ. Нават у ціхай Гродні цяжкіе часы вызвалі на сцэну кішэнёвых зладзеёў. У аднэй кабеты укралі ў тую пятніцу с кішэні вялікіе грошы.

БАЖЭЛОЎКА. Сын аднаго селяніна з работнікам з Аўгустова спаткалі на рынку ў Тайне гандляра і прэдлажылі яму купіць каня. Калі гандляр заплаціў 500 руб., дык сын селяніна ўскочыў на каня і паскакаў, а работнік уцёк пехатой. За гэткі «гандэль» абодва вінавайцы засуджэны кожын на год у вастрог.

ГАРА. Пажарам зьнішчэн увесь хутар селянкі Розаліі Фэрэні. Пасьля агонь перакінуўся і на суседніе хутары. На шчасьце, пад рукой аказаліся добрые пажарніцкіе прылады, і людзі, збегшыся с поля, здалелі, хоць і з вялікім трудом, абараніць іншые будоўлі сваей вёскі.

СУВАЛКІ. Пакаёўка І. прыйшла да маткі работніка Наумовіча, у катораго пакінула свае рэчы. У кватэры быў толькі Вадзін Наумовіч, каторы накінуўся на яе, закрыў ей вусты рукой і згвалтаваў яе. Сувальскі акружны суд засудзіў яго на 1½ году ў папраўчы дом.

СУВАЛКІ. У найбліжэйшых тыднях будуць выдаваць новые карты на хлеб.

СУВАЛКІ. Каля Белаго возера пачаўся лясны пажар, каторы скора затушылі. Шкода — незначная.

СУВАЛКІ. «Дзень кветкі» даў 1375 м. 16 фэн. даходу.

СЭЙНЫ. Прывоз у Сэйнэнскі павет гарэлкі, папірос, серчыкоў, солі, цукру, цыкорыі, сахарыны, карбіду, парашка дзеля мыцьця, мыла, сьвеч і ліманаду — забаронен.

СКАРУПЫ. У начы с пазапрошлай пятніцы на суботу зладзеі абакралі гумно аднаго тутэйшаго селяніна. Ў іх рукі папаў вялікі запас жыта.

КАЛЕСЬНІКІ, мар'ямпольск. пав. У селяніна Яна Андрушкевіча ешчэ у красавіку укралі са стайні 6-летняго чорнаго жэрэбца, катораго ў маі знайшлі ў Лодзеях у гандляра Прэйса. Прэйс заявіў, што купіў каня за 800 марак у селяніна Шупеніса. Шупеніс, каторы ўжо не раз занімаўся канакрадзтвам і забароненай тарговаляй коньмі, засуджэн на 3 мес. ў вастрог і 1000 руб. штрафу.

На судзе Шупеніс стараўся скінуць віну на другога селяніна, але той здалеў давясьці сваей нявіннасьці.

БАКАЛАЖЭВО, каля Руды. Тут і ў Віжэйнах нямецкіе ўласьці выкрылі каней, вывезеных расейцамі з Нямеччыны ў часі іх паходу ў усходніе Прусы.

СОБОЛЕВО. У тутэйшым млыне арэштавалі вялікую партыю мукі с сёлетняго ураджаю.

ПАЙНЕ (пад Эйраголай). У тутэйшаго селяніна ў начы з 21 на 22 укралі с пашы карову.

КОЎНА. «Kown. Ztg.» пішэ: Ковенцы маюць магчымасць карыстаць с прыемнасьці, асабліва цэннай у гэтым часі: на рагу вуліц Імператара Вільгэльма і Новай прадаюць кожын дзень сьвежую масьлянку.

---

ОРША. Недалёка ад станціі разбіўся поезд, каторым ехаў генэраліссімус Корнілов. Думаюць, што тут было пакушэньне на яго жыцьцё.

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). С прычыны таго, што дзеля сазыву устаноўчаго сэйму трэба ў местох і земствах улажыць спісы выбаршчыкоў, а перад тым у местох і земствах павінны быць выбраны ўласьці,—тымчасовы ўрад прызнаў патрэбным адлажыць выбары ў устаноўчы сэйм на 25 лістапада, а сазыў сэйму—на 11 сьнежня.

Тымчасовы ўрад апрацаваў гэткі закон:

1. Вываз с Пецярбурга бальніц і дабрачынных устаноў.

2. Выдаленьне с Пецярбурга элемэнтоў, каторые стаяць за контррэволюцію, асабліва быўшых жандароў і агентоў тайнай паліціі.

3. Новая праверка асоб, каторые дайшлі гадоў дзеля ваеннай службы, і высылка на фронт усіх здольных да ваеншчыны.

4. Забарона вертацца ў Пецярбург на ўвесь час вайны асобам, каторые ня будуць мець пазваленьня провінцыяльных і мейсцовых уласьцей.

Усе гэтые загады будуць споўнены той-час

ПЕЦЯРБУРГ. Вестку аб адкладзе сазыву устаноўчаго сэйму левые спаткалі з неспакойствам, бо кожын дзень адкладу узмацовывае контррэволюцыйны рух у старане. Сазыў нацыянальнай конфэрэнціі ў Маскве павялічыў неспакойство, каторае вызвано прамовамі буржуазных аратароў супроць дэмократычных організацій.

ЛОНДОН. «Times» даносіць с Пецярбурга:

Надзея на угоду між партыямі—надта слабая. Практычная развязка чародных пытаньнёў магчыма толькі пры поўнай капітуляціі аднэй ці другой стараны. Пасьля москоўскай конфэрэнціі коаліцыйнае правіцельство мабыць распадзецца.

Корнілов жадае устанаўленьня ваеннаго кантролю на чыгунках; бяз гэтаго дастаўка на фронт снарадаў і спажыўных прадуктаў—вельмі цяжкая. Амэрыканскі інструктар у жалезнадарожных справах радзіць завясьці на чыгунках дыктатуру да канца вайны.

ПЕЦЯРБУРГ. Памочнік ваеннаго міністра Савенков выйшоў у адстаўку с прычыны нязгодлівасьці с Керэнскім.

Украінская Рада адмовілася паслаць сваіх дэпутатоў на нацыональны конгрэс у Маскве. Украінскі генэральны секрэтар выйшоў у адстаўку с прычыны нязгодлівасьці с тымчасовым урадам.

ШТОКГОЛЬМ. Украінскі генэральны сэкрэтарыат публікуе гэткую заяву аб палажэньні на Украіне:

„Контррэволюція карыстае з урадоваго крызіса, прыпадкоў на фронці і крызіса у справе старваньня, каб у цяперашні момэнт, па яе пагляд—удачны, перайсьці да чынных выступленьнёў. Украінскі рух становіць цэнтр, навакол катораго гуртуюцца ўсе соцыал-рэволюцыйные элемэнты краю. Гэтым і тлумачыцца гэта барацьба, каторую рэакцыонеры вядуць проці украінскаго сэпаратызму, не перэбіраючы ніякімі способамі. Сьвядома пускаюць фальшывые чуткі; украінскую раду вінавацяць у тайнай змове з Нямеччынай і Аўстрыей; з розных мейсц даносяць аб сабраньнях контррэволюцыйных афіцэроў, прызываючых да змаганьня з украінцамі і жыдамі. З гэтай прычыны мы напамінаем рэволюцыйнай дэмократыі, што рэволюція ў Расеі неразрыўна звязана з рэволюціей на Украіне".

С прычыны укрытай непрыязьні правіцельства Керэнскаго да офіцыяльна прызнанай аўтономіі Украіны нельга сумлевацца, проці каго кіруецца гэтае апавешчэньне.

У той аўторак у Кіеві адбылося бурнае заседаньне украінскай рады. Прэдстаўнікі украінскіх социялістоў і нацыональных меншасьцей палякоў і жыдоў трэбавалі, каб спіскі членаў генэральнаго сэкрэтарыата падаваліся тымчасоваму ураду ў Пецярбурзі дзеля зацьверджэньня. Проці гэтаго цьвёрда выступілі украінскіе рэволюцыонеры, каторые наагул ня хочуць ніякай угоды с тымчасовым урадам у Пецярбурзі. Большасць членаў нацыональнай рады згодзілася з іх паглядам.

ПЕЦЯРБУРГ. У тую сераду пад маршалкоўствам Родзянкі адбылася нарада ўмяркаваных партый. Прамаўлялі генэралы Алексеев, Каледін і Брусілов. Корнілову послана тэлеграма.

Служачые на дзьвех важнейшых расейскіх чыгунках пастанавілі забаставаць. Конфэрэнція жалезнадарожнікоў у Маскве тэлеграмай прасіла іх не выступаць паасобку, бо ў прыпадку правядзеньня жаданьня Корнілова аб ваеннай дыктатуры на чыгунках мае быць аб'яўлена агульная забастоўка на чыгунках.

ШТОКГОЛЬМ. «Русская Воля» пішэ, што расейскіе палітычные кругі занімаюцца цяпер пытаньнем аб перавозе царскай сям'і заграніцу,—мабыць у Англію.

ШТОКГОЛЬМ. У Пецярбурзі ходзяць чуткі, бытцым в. кн. Міхаіл Александравіч выедзе ў Англію. З гэтай прычыны «Русское Слово» заяўляе, што вялікі князь

## Аб духоуных песьнях.

Беларускіе духоўные песьні—гэта адна з адмен народнай паэзіі, паўстаўшай на зарэ хрысціянства пад ўплывам кніжнай граматнасьці. Што датычэ зместу духоўных песень, то ён залежэн ад розных ўплывов, з якіх важнейшымі былі: ўплывы духоўнай літэратуры, ўплывы апокрыфічных повесьцей і ў канцы ўплывы народнаго эпосу. Духоўные песьні у даўные часы былі якбы ўласнасьцю аднэй клясы народу—калек і убогіх, дзеля гэтаго сама сфэра, у якой яны шырыліся і тварыліся, палажыла на іх сваё характэрнае клеймо. Калекі і убогіе «старцы» даўных часоў рожніліся ад сучасных нам убогіх. Яны былі у нас тым, чым у украінцоў кобзары і лірнікі, а ў французоў барды—пеўцамі і тварцамі народнаго эпосу, і толькі у пазьнейшые часы, калі зьнікла гэта старэчая дружына, духоўные песьні перайшлі да праўдзівых калек і убогіх, якіе па селянскіх хатах ды па кірмашах, распеваючы духоўные песьні, стараліся прыцягаць к сабе рэлігійна успасобленых людзей.

Калі раздзяліць духоўные беларускіе песьні паводле іх зместу, то найболей пашырэнай групай прыдзецца прызнаць тую, тэмы каторых маюць стычнасць з гэтымі пакрыўджэнымі доляй людзьмі. Гэтак, найбольшай папулярнасьцю цешацца розные адмены песень «аб багачу і Лазару», «аб Аляксею чэлавеку божым» і інш.

У блізкай сувязі з гэтым трэба паставіць цэлы рад духоўных рад духоўных песень, якіе носяць характар поэтычных пэрэсказоў з жыцьця сьвятых. З іх найболей вядомы: «аб сьв. Ягор'ю», «аб сьв. Варвары», «аб сьв. Дароце» і інш.

Песьня «аб Галубінай кнізе» носіць апокрыфічны і космополітычны характэр. Гэта песьня задаецца мэтай растлумачыць тайны прыроды і географічную веду с пункту вузкаго кругазору сэктанта першых вякоў хрысьціянства, яна у розных, меней болей схожых, адменах сустрэчаецца у усіх народаў Эуропы.

Даволі багатую группу беларускіх духоўным песень становяць песьні аб сканчэньні сьвета і аб страшным судзе. З іх самые тыповые—у якіх апісываецца паяўленьне антыхрыста і сам страшны суд. Некаторые с песень гэтай группы далёка адходзяць ад духоўнай літэратуры і выдзеляюцца арыгінальнасьцю у апрацаваньні і выбары тэм.

У канцы даволі багатую группу духоўных беларускіх песень становяць духоўные па уніяцкіх цэрхвах і касьцёлах; да гэткіх належаць: «песьня пра сьв. Мікалая», «Песьня да Езуса Хрыста», «А марнасці сьвета». Песьня а марнасці света цікава тым, што утрымала характар старой беларускай кніжнай мовы. У рэшце песьня «О, мой Божэ, веру табе» гэта самая популярная духоўная каталіцкая песьня, яна дагэтуль пяецца у касьцёлах некалькіх парахвій магілеўшчыны.

З літэратурнаго боку духоўные песьні, належачые да группы народна-славесных, цэнны тым, што даюць нам літэратурную форму загінуўшаго нацыональнаго беларускаго эпосу.

